● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

29 жніўня 1998 г. субота, № 170 (23521)



# ЗВЯЗДА

**_Намеснік старшыні Камітэта цэн пры Мінэканомікі Уладзімір АДАШКЕВІЧ:_**

## «ЦЭНЫ НА ТАВАРЫ САЦЫЯЛЬНА-ЗНАЧНАЙ ГРУПЫ ПАДЫМАЦЦА ПАКУЛЬ НЕ БУДУЦЬ»

***У сувязі з апошнімі падзеямі ў Расіі, дзе адбыўся — сапраўдны абвал цэн амаль на ўсе тавары ў сярэднім на 15—20 працэнтаў, сёння, здаецца, усіх грамадзян рэспублікі турбуе адно пытанне: з якімі цэнамі будзем жыць мы ужо заўтра? Прааналізаваць для «Звязды» становішча ў сферы цэнаўтварэння ў нашай краіне згадзіўся першы намеснік старшыні Камітэта цэн пры Міністэрстве эканомікі Беларусі Уладзімір АДАШКЕВІЧ.***

**— Уладзімір Канстанцінавіч, не сакрэт, што шмат тавараў мы закупляем у Расіі. Як апошнія падзеі ў гэтай краіне адаб'юцца на цэнах у Беларусі?**

— Апошнія падзеі ў Расіі закрануць і айчынны рынак. Калі мы пачнём закупляць у Расіі тавары па іншых цэнах, у сувязі з падзеннем курса рубля, то гэта прывядзе і да павелічэння цэн на нашым рынку. Гэта відавочна. Так, нам стала вядома, што ў некаторых дзяржаўных магазінах значна падскочылі цэны на грэчку новай партыі. Але адразу адзначу, што на завозімую з-за мяжы краіны прадукцыю наш камітэт цэны не вызначае. Мы праводзім рэгуляванне цэн па таварах, якія выраблены ў рэспубліцы. Што датычыцца імпартных тавараў, то ёсць выпадкі, калі цэны на іх падымаліся прадаўцамі неабгрунтавана. Каб прадухіліць магчымасць такіх злоўжыванняў, Міністэрства гандлю павінна рэагаваць жорстка і аператыўна.

**— Ці будуць у бліжайшы час дапушчаны цэны на сацыяльна-значныя групы тавараў?**

— На сённяшні дзень, па стану на 28 жніўня, цэны на гэтыя тавары мы падымаць пакуль не плануем. Але адразу заўважу, што яшчэ год таму цэны на сацыяльна-значныя групы тавараў рэгуляваліся Камітэтам цэн. Зараз жа кожная пазіцыя па гэтых таварах непасрэдна разглядаецца ва ўрадзе краіны. Наколькі нам вядома, сёння змяненні цэн ва ўрадзе не разглядаліся.

**— Зараз у Расіі насельніцтва пачало актыўна скупляць складана-бытавую тэхніку. У прыгранічных з Расіяй рэгіёнах Беларусі попыт на больш танныя беларускія тавары можа прывесці да ажыятажу. Ці не плануеце вы прадпрымаць пэўныя захады, каб нейкім чынам абараніць айчынны рынак у гэтых рэгіёнах?**

— Сапраўды, у прыгранічных раёнах сёння даволі складанае становішча. Тут скупляюць і вывозяць у Расію не столькі складана-бытавую тэхніку і мэблю, а хутчэй прадукты з сацыяльна-значнай групы тавараў, такія як яйкі, тварог і хлеб. Гэта адбываецца таму, што ўзровень цэн у Беларусі значна ніжэйшы на іх, чым у Расіі, напрыклад, у Маскве. Але ў сувязі з гэтым, мы не збіраемся падымаць цэны ў прыгранічных раёнах да цэнавага ўзроўню Масквы. Па складана-бытавой тэхніцы заўважу, што цэны на іх практычна не рэгулююцца дзяржавай, а фарміруюцца вытворцам па ўзгадненню з гандлёвымі аб'яднаннямі.

**— З 1 кастрычніка ўрад краіны плануе павысіць заработную плату. Ці распрацоўваеце вы пэўныя прапановы ва ўрад па павелічэнню цэн да пачатку кастрычніка?**

— Пакуль што ў Камітэце цэн пытанне глабальнага павышэння цэн на асноўныя групы тавараў не разглядалася. Што будзе праз тыдзень або два, казаць рана. Паднімаць цэны прапануем не мы, а вытворцы прадукцыі. Па харчовай групе падняць цэны прапануе Мінсельгасхарч. Многія прапановы ў гэтым напрамку мы часткова падтрымліваем. Так, сёння вытворчасць хлеба масавых гатункаў амаль цалкам датуецца дзяржавай. Больш паловы прадпрыемстваў, якія спецыялізуюцца на вытворчасці птушкі, працуюць з вялікімі стратамі. Каб зусім «не пакласці» гэтыя прадпрыемствы, дзяржава павінна будзе падняць цэны на тыя ці іншыя тавары.

**Распытваў Сяргей КУРКАЧ.**





Фота Ігара ПЯТРОВА.

## ЖНІВО НАБЛІЖАЕЦЦА ДА «ФІНІШНАЙ ПРАМОЙ», А ЗДАЧА ЗБОЖЖА ДЗЯРЖАВЕ ПЕРАЙШЛА ЎЖО ПРАЗ «ЭКВАТАР»

Тэмпы ўборачнай па-ранейшаму застаюцца нізкімі. Шэраг гаспадарак, праўда, ужо завяршылі жніво, аднак агульная лічба, паводле апошніх даных, невысокая — усяго апрацавана 1,9 мільёна гектараў палеткаў, што складае 74 працэнты ад засеянага. Брэсцкая і Гродзенская вобласці не губляюць лідэрства — тут убрана 87 і 83 працэнты адпаведна.

З-за дрэннага надвор'я працягвае паніжацца і ўраджайнасць — учора гэты паказчык складаў 23,6 цэнтнера з гектара (некалькі дзён таму — 23,8 ц/га). Самыя высокія лічбы за Гродзеншчынай — 31,4 ц/га, самыя нізкія застаюцца ў Віцебшчыны — 19,2. У астатніх рэгіёнах паказчыкі наступныя: Брэсцкая вобласць — 23,7, Гомельская — 20,8, Мінская — 23,2, Магілёўская — 22,1 цэнтнера з гектара.

Паводле апошніх даных, гаспадаркамі ўсяго намалочана каля 4,4 мільёна тон збожжа. Чвэрць гэтай лічбы — за Гродзеншчынай, 816 тысяч тон намалацілі ў Мінскай вобласці, 755 — у Брэсцкай. Самыя нізкія паказчыкі па Віцебшчыне і Магілёўшчыне — 554 і 584 тысячы тон адпаведна.

Не ўсё зерне, аднак, у адпаведнасці з планам (а ён, як удакладнілі карэспандэнту «Звязды» ў Камітэце па хлебапрадуктах Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання складае 1,7 мільёна тон) паступае на прыёмныя пункты. Актыўнасць гаспадарак застаецца вельмі невысокай. Так, як паведаміла карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення рэгулявання рынку зерня і хлебапрадукцыі Камітэта па хлебапрадуктах Ядвіга Лісоўская, па аператыўных даных, на прыёмныя пункты паступіла за дзень толькі 20 тысяч тон збожжа (два дні таму — 24 тысячы тон). Планавы паказчык выкананы пакуль толькі на 58 працэнтаў — гаспадаркі здалі дзяржаве 988,5 тысячы тон збожжа (ва ўчарашнім нумары газеты па тэхнічных прычынах былі прыведзены недакладныя лічбы) лепшыя паказчыкі ў Гродзенскай вобласці — 218 тысяч тон (79 працэнтаў планавага паказчыка). Гаспадаркі Брэстчыны здалі дзяржаве 180 тысяч тон збожжа (68 працэнтаў). Менш за ўсіх лічбы ў Магілёўскай вобласці — 124 (45).

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***АМАЛЬ СЕНСАЦЫЯ***

## СТАЎ СТУДЭНТАМ... У 76 ГАДОЎ — «КАБ НЕ БЫЦЬ ДЫЛЕТАНТАМ»

Як не ўзгадаць старую ісціну: вучыцца ніколі не позна. Студэнтам першага курса завочнага аддзялення факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта стаў Мікалай Іванавіч Наско, 1922 года нараджэння. У прыёмнай камісіі яго дакументы прымалі не без здзіўлення: у 1946 годзе абітурыент скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, у цяперашні час ён пенсіянер. Але сваё жаданне вучыцца абітурыент матываваў наступным: імкнуся сур'ёзна займацца журналістыкай, не хачу быць дылетантам.

Згодна з заканадаўствам, другая вышэйшая адукацыя можа быць атрымана толькі на платнай аснове, аднак у БДУ зрабілі выключэнне для М. Наско: ён будзе вучыцца бясплатна. Яшчэ адна цікавая акалічнасць: жадаючыя атрымаць другую вышэйшую адукацыю могуць быць залічаны адразу на трэці курс — пры ўмове, што частка прадметаў па агульнагуманітарных дысцыплінах ужо здавалася, і ў прылажэнні да дыплома ёсць адпаведныя адзнакі. Аднак, натуральна, вучэбныя планы 40-х гадоў і 90-х адрозніваюцца, як дзень і ноч, — таму М. Наско залічаны толькі на першы курс.

Калісьці ў правілах прыёму ў ВНУ была вызначана гранічная ўзроставая мяжа для абітурыентаў, але ў апошнія гады яна скасавана. Напэўна, ужо ніхто не здзівіцца, калі ў наступным годзе ў «абітурыенцкім марафоне» побач з выпускнікамі школ будуць удзельнічаць іх дзядулі (бабулі)-пенсіянеры.

**Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**

## АДЗІНЫ КУРС МВБ — 50 ТЫСЯЧ

«Звязда» ўжо паведамляла аб тым, што з 28 жніўня Нацыянальны банк рэспублікі ўстанавіў адзіны курс на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы. Цяпер беларускія юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі ў абавязковым парадку будуць прадаваць 40 працэнтаў паступленняў на свае валютныя рахункі. Дарэчы, ужо ў чацвер на таргах курсы дадатковай і асноўнай сесій выраўняліся і «завіслі» на адзнацы ў 50 тысяч рублёў за долар. Такім чынам, неабходнасць у правядзенні двух сесій адпала і ўчора, калі, як і было прынята рашэнне галоўным банкам, працавала толькі адна сесія.

Зразумела, што курс, які будзе фіксавацца на таргах, і стане вызначаючым для прадпрыемстваў. Наколькі рэальна адлюстроўваюць рэчаіснасць лічбы на МВБ — гэта ўжо іншая справа. Калі на міжбанку каціроўкі сёння дасягаюць ужо 120 тысяч, а «чорны нал» падняў стаўкі да 81 тысячы рублёў за долар, то на таргах долар фіксіруюць цвёрда. Як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам газеты адзін з эканамістаў, аб нейкім уплыве адзінага курса, зыходзячы з устаноўленых рамак рублю, пакуль меркаваць цяжка: нейкіх істотных змен з курсам не адбываецца.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## СВАСТЫКА НА ПОМНІКУ

У Брэсцкім гарвыканкаме «ламаюць» галаву, што рабіць з помнікам вязням Брэсцкага гета і яўрэям, загінуўшым пад Брэстам. Лічыцца, што нацысты закатавалі 30 тысяч чалавек.

Помнік адкрылі ў 1992 годзе і вось цяпер стаіць пытанне аб часовым дэмантажы гранітнай стэлы.

Справа ў тым, што помнік размалявалі на гэтым тыдні невядомыя вандалы.

Змыць фашысцкія свастыкі з граніта не ўдалося. Спецыялісты лічаць, што неабходна занава прашліфаваць паверхню і выбіць паўторна тэкст.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

***ФУТБОЛ. КУБАК УЛАДАЛЬНІКАЎ КУБКАЎ***

### ВІЦЯБЛЯНЕ ВЫРАТАВАЛІ ЎЛАСНЫ ГОНАР НА АПОШНЯЙ ХВІЛІНЕ

Футбалісты віцебскага «Лакаматыва-96» толькі часткова выратавалі свой імідж у матчы ў адказ з балгарскім «Леўскі», які яны праводзілі на сталічным стадыёне «Дынама» ў мінулы чацверг. Госці, пасля разгромнай дамашняй перамогі з хакейным лікам 8:1, і на гэты раз вялі сустрэчу да перамогі. І толькі на апошняй хвіліне матча Сіўкоў зраўняў лік — 1:1.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ТРЫ ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА

***Яўген КАЦЕЛЬНІКАЎ, прэзідэнт Федэрацыі кікбоксінга Беларусі: «Слухаю радыё і чытаю «Звязду»...»***

**1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— Па вялікаму рахунку, газеты я наогул чытаю вельмі мала. Усё больш кручуся-вярчуся на машыне, слухаю радыё, якое ў прынцыпе і з'яўляецца для мяне асноўнай крыніцай інфармацыі. Калі ж не даводзіцца паслухаць радыё, заўсёды купляю «Звязду», бо дакладна ведаю, што па аператыўнасці інфармацыі ваша газета дае фору многім выданням. Ну і, па-другое, «Звязда» ніколі не абыходзіла ўвагай наш від спорту.

**2. Што вам падабаецца ў «Звяздзе»?**

— Прынцыповасць і тое, што прытрымліваецеся нацыянальных традыцый.

**3. Што б вы хацелі змяніць у «Звяздзе»?**

— Знешні выгляд газеты. Не крыўдзіцеся, аднак з-за таго, што ў газеце амаль адсутнічаюць ілюстрацыі (а калі і ёсць, то вельмі дрэннай якасці), газета ў нейкім сэнсе становіцца сляпой. Вядомая справа, з-за фінансавых цяжкасцяў, вы не можаце сёння падаваць матэрыялы як скажам «Більд», аднак адназначна, што над павышэннем узроўню афармлення вам трэба добра падумаць. Дарэчы, наколькі я ведаю, гэта не толькі мой погляд.

## ГАЛОЎНЫ АВІЯТАР БЕЛАРУСІ ВЫХОДЗІЦЬ НА ФУТБОЛЬНУЮ «ЎЗЛЁТНУЮ ПАЛАСУ»

Назначаная на 31 жніўня пазачарговая справаздачна-выбарчая канферэнцыя Федэрацыі футбола ўжо сёння вызначыла для сябе двух кандыдатаў на пасаду прэзідэнта — ад рэспубліканскай федэрацыі вылучаны генеральны дырэктар «Дынама-Мінск» і галоўны трэнер беларускай зборнай Міхаіл Вяргеенка, ад гарадской федэрацыі — старшыня Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Беларусі Рыгор Фёдараў.

Па меркаваннях спецыялістаў, Міхаілу Нікіфаравічу наўрад ці спатрэбіцца яшчэ і трэцяя пасада, таму яго кандыдатура вылучана, напэўна, проста для «праформы».

Дарэчы, з ФІФА прыйшоў ліст у беларускую федэрацыю, у якім гаворыцца аб тым, што міжнародная федэрацыя не будзе перашкаджаць рабоце канферэнцыі, аднак трымае сітуацыю пад кантролем і, калі што якое (маецца на ўвазе, калі ў футбольныя справы будуць умешвацца), да нашага футбола будуць прыменены штрафныя санкцыі. Зрэшты, усё будзе залежаць ад таго, як пройдзе сама канферэнцыя.

**Алесь СІВЫ.**

***УСМІХНЁМСЯ***





Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

**Марцін Коўзкі, майстар малых форм, зусім нядаўна выдаў кніжку «Як той казаў», у якой прадстаўляе самыя кароткія са сваіх «прапісных ісцін» — сатырычныя мініяцюры. Да вашай увагі, шаноўныя чытачы, некаторыя з іх!**

■ Гідраўліка (з народнага): як бот цячэ, дык у бот, а як бочка, — дык з бочкі.

■ З-за цябе патрапіў на кручок, — папракнуў ёрш чарвяка. — Я даўно ўжо на ім, — адказаў чарвяк.

■ Лес сякуць — парк садзіць будуць.

■ Не з усіх апалонікаў выходзяць Апалоны.

■ Некаторыя патрабуюць, каб да іх ставіліся лепш, чым да іншых, бо яны горшыя за ўсіх.

■ — Няма шчасця, — сказаў кот, адпусціўшы мыш, каб ўратавацца ад сабакі.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 28 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 59200 | 59800 | 32600 | 33290 | 6000 | 6570 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 59500 | 60000 | 32500 | 33200 | 6000 | 6600 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 58500 | 60000 | 32400 | 33200 | 5500 | 6600 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 50000 | | 27940.77 | | 5250 | | Курс на 29.08.1998 |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

# ...КОЛЬКІ БУДЗЕМ ПЛАЦІЦЬ ЗА КВАТЭРУ?

**Сістэма аплаты за камунальныя паслугі перажывае час сапраўднага крызісу. Праўда, пакуль ён не зусім яўны, але ж мае тэндэнцыю хутка праявіцца.**

Складваецца такое ўражанне, што тарыфная палітыка фарміруецца хаатычна. Мяркуйце самі — сёлета плацяжы павышаліся двойчы (26 красавіка і 1 ліпеня). Спачатку былі ўстаноўлены гранічныя каэфіцыенты на халоднае водазабеспячэнне і каналізацыю ў памеры 1,3. Пасля была вызначана выключна каналізацыя, тарыф на гэтую паслугу ўзрос у 2,56 раза. У абсалютных лічбах гэтая мера выражаецца нязначна — 10—15 тысяч рублёў на чалавека, але ж тарыф быў даведзены да ўзроўню сабекошту паслугі.

Сістэма ж водазабеспячэння пакуль застаецца ва ўмовах стратнага існавання. Менавіта гэтую падгаліну Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі пастаянна выдзяляе ў сваіх прапановах ураду. Стварэнне эканамічна абгрунтаваных тарыфаў на ваду дазволіць падштурхнуць уперад і ўсю сістэму ЖКГ. Мінжылкамунгас з'яўляецца ў гэтай справе сапраўдным манапалістам — яму належыць каля 95 працэнтаў адпаведнага інжынерна-тэхналагічнага абсталявання. Увядзенне рэальных тарыфаў адразу б паспрыяла фінансава-эканамічнаму аздараўленню падгаліны, з'явіліся б больш шырокія перспектывы ў яе развіцці. Вада — здароўе нацыі. Пра гэта ўжо неаднойчы гаварылася на самых розных узроўнях, але дасюль пытанне застаецца нявырашаным. За восем месяцаў павышэнне плацяжоў насельніцтва за водазабеспячэнне (не ўлічваючы індэксацыю) адбылося ў памерах толькі 30 працэнтадў. Гэта мізэрная лічба. Уявіце сабе памеры гаспадаркі (абсталяванне, складаныя інжынерныя сістэмы) і вам стане зразумелым, што без кардынальнай рэканструкцыі, для якой патрабуюцца вялікія сродкі, справу з месца не зрушыць. І паўмерамі тут не абысціся.

Стратэгія камунальнікаў у тым, каб паасобку «выцягваць» асобныя галіны, ставіць іх ва ўмовы эканамічна абгрунтаванага існавання. Такія планы, прынамсі, з'яўляюцца найбольш прымальнымі — паступова ўся сістэма Мінжылкамунгаса наблізіцца да рыначных адносінаў з насельніцтвам. Нельга дапусціць абвальнага павышэння, ніхто на гэта, канешне ж, не пойдзе, але задумвацца аб перспектывах проста неабходна.

Айчынныя плацяжы зараз даволі ўмоўныя, але іх рост павінен быць прымеркаваны да росту даходаў жыхароў. Інакш проста нельга. Ва ўмовах «шокавай тэрапіі» (прыклад прыбалтыйскіх дзяржаў) адразу ўзнікае праблема сацыяльнага выбуху — нязначная частка насельніцтва, напэўна ж, будзе здольнай разлічыцца за камунальныя паслугі, большасць — апынецца на мяжы банкруцтва, калі ўсе грошы неабходна будзе выдаткоўваць толькі на кватэрную плату.

Палітыка паўмераў можа прывесці якраз да неабходнасці абвальнага павышэння — прамыслоўцы ўжо сёння выказваюць свае жорсткія патрабаванні наконт змяншэння неабгрунтавана высокіх плацяжоў. Падчас існавання так званага «перакрыжаванага субсідзіравання» асноўны цяжар выдаткаў ускладаецца на плечы заводаў і фабрык. Кошт паслуг для «іншых спажыўцоў» (так іх называюць сёння) у 2-3 разы вышэй за сабекошт, а ў параўнанні з плацяжамі насельніцтва дык і ўвогуле ўяўляе сабой вялізныя лічбы. За тую ж ваду жыхары сёння ўносяць толькі 30 працэнтаў яе рэальнага кошту, астатняе — папаўняецца з дапамогай бюджэту (гэта даволі нязначныя сумы) і прамыслоўцаў.

Чарговыя прапановы Мінжылкамунгаса, што былі накіраваны ва ўрад, тычыліся зноў жа сістэмы водазабеспячэння. Павышэнне тарыфаў, як плануецца, павінна адбыцца ў межах 300 працэнтаў. За такой унушальнай лічбай хаваецца не вельмі значнае павелічэнне плацяжоў насельніцтва — 40—70 тысяч рублёў (у залежнасці ад сезона). Аднак гэта дазволіць выйсці на зусім новую прастору перспектыўнага развіцця сістэмы водазабеспячэння (нездарма ж камунальнікі з такой упартасцю паўтараюць свае прапановы).

Якім чынам вызначыцца ўрад, хутка стане вядома. Хутчэй за ўсё тыя ж 30 працэнтаў (доля агульнага павелічэння плацяжоў пасля давядзення тарыфа на водазабеспячэнне да эканамічна абгрунтаванага ўзроўню) раскідаюць па розных відах паслуг. І зноў жа праблема будзе чакаць свайго кардынальнага вырашэння?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



## Самотная бульбачка...

Фота Ігара ПЯТРОВА.

*ЧАЛАВЕК-ПЯСЧЫНКА*

# НЯЎЖО ПАТРЭБЕН СУД?..

**Анісім Фёдаравіч Мірашнічэнка — чалавек сталага веку. За плячыма — звычайнае жыццё са звычайнымі выпрабаваннямі. Зразумела, што з кожным годам усе праблемы ўспрымаюцца больш абвострана. Зусім не так, як у людзей маладых, моцных здароўем, дзеяздольных і матэрыяльна забяспечаных. Не так, як напрыклад, у знаёмага мне чыноўніка высокага рангу. Заліў яму сусед кватэру. Зразумела, добраўпарадкаваную кватэру ў прэстыжным доме, пасля прыстойнага рамонту перад засяленнем. Разборак асаблівых і ўшчуванняў не было. Паківалі суседзі галовамі, палічылі, колькі рамонт каштуе і на гэтым разышліся. Пытанне, словам, вырашылі палюбоўна. Ніхто ні з кім не лаяўся. Ахвяра не сумнявалася, што віноўнік усё зробіць як след. А віноўнік і не хаваўся...**

Іншая справа — у сітуацыі, толькі вонкава падобнай на згаданую вышэй, у якую патрапіў Анісім Фёдаравіч Мірашнічэнка, які жыве ў Мінску — 2-гі завулак Баграціёна, дом 20, кватэра 54. Кватэру яго на працягу апошняга часу залівала адзінаццаць разоў. Залівала з кватэры № 60. Тройчы Мірашнічэнкі выклікалі аварыйную службу. Вынік заліванняў зразумелы і многім гараджанам знаёмы: абсыпалася тынкоўка, адклеіліся шпалеры, уздулася фарба. Зразумела, патрэбны рамонт.

Анісім Фёдаравіч, маючы, як пенсіянер, вольны час, толькі тым і займаўся, што званіў у домакіраўніцтва, пісаў туды скаргі, законна спадзеючыся, што ў адносінах да гаспадара 60-й кватэры будуць прынятыя нейкія меры. Ды дзе там... Магчыма, калі б Анісім Фёдаравіч меў ранг згаданага чыноўніка, то пытанне вырашылася б палюбоўна.

Таму, па логіцы рэчаў, гаспадар-ахвяра чакае падтрымкі. Найперш — ад домакіраўніцтва (варта, відаць, падкрэсліць, што дом нумар 20 па 2-ім завулку Баграціёна належыць Беларускай чыгунцы, і домакіраўніцтва знаходзіцца ці не праз паўгорада ад месца жыхарства Мірашнічэнкі. А значыць — і за паўгода не даехаць адтуль). Праўды дзеля, варта заўважыць, што пасля апошняга звароту Мірашнічэнкі меры былі прынятыя. А дакладней — была створана камісія з нагоды затаплення кватэры. Быў і акт складзены, дзе, безумоўна, назвалі лічбу затрат, неабходных для рамонту. Грошы вызначылі ў прынцыпе смешныя (зараз суму гэтую называць, відавочна, немэтазгодна, бо прайшоў значны адрэзак часу і, адпаведна, і шпалеры, і фарба падаражэлі). І тым не меней гаспадар «зверху» адмахнуўся і ад такога клопату. Хаця мог бы ў прынцыпе сам не займацца рамонтам, калі ўжо на тое пайшло. Мог бы аплаціць затраты домакіраўніцтву, а тое ў сваю чаргу правяло б рамонт кватэры Мірашнічэнкаў. Але ж дзе там... Мусіць, і домакіраўніцтва настойлівасцю асаблівай не гарэла. Маўляў, ці аднаго толькі пенсіянера і ці пенсіянера толькі залівае. Круцяцца ж неяк людзі, абыходзяцца без нас, то няўжо Мірашнічэнка выйсце не знойдзе? І чаму ўвогуле мы павінны чыімсьці прыватным клопатам займацца? Тут ужо не будзем дамысліваць, але ж, пэўна, такім вось чынам думалі-меркавалі ў домакіраўніцтве. Хаця, мо і не думалі зусім.

Ужо ў чэрвені, а камісія была ў красавіку, Мірашнічэнка піша новую заяву, спрабуе нагадаць пра «адзінаццаць разоў затаплення», пра выклікі аварыйнай службы, пра «камісію, якая склала акт, паспачувала»... нават. Ды і ў гэтым разе плёну ніякага. Учора пазваніў я Анісіму Фёдаравічу, пацікавіўся, а мо што-небудзь усё ж такі змянілася за гэтыя апошнія месяцы. «Нічога», — спакойна, без ценю нервознасці адказаў Мірашнічэнка. Відаць па ўсім, што і не чакае ён змен. А піша, звоніць, нагадвае аб сабе па звычцы. Не чакае рамонту, бо ведае, і словы спачування могуць адно толькі словамі застацца. Дарэчы, з таго домакіраўніцтва, якое ўсё ж дзеля працы з людзьмі, гаспадарамі кватэр створана, маглі б і самі пазваніць. На крайні выпадак — нагадаць пра цяжкае эканамічнае становішча ў цэлым па краіне, пра адсутнасць танных фарбаў і такіх жа танных шпалераў. Не пазванілі, не растлумачылі.

Маглі б яшчэ і самі рамонт зрабіць. А пасля ўжо прымусіць гаспадара-віноўніка (з 60-й кватэры, з тае, што над Мірашнічэнкамі) аплаціць затраты. Не пагадзіўся б — звярнуліся ў суд. Што ні кажы, домакіраўніцтву лацвей судзіцца, чым таму ж Мірашнічэнку. Пенсіянеру гэта і з маральнага, і з матэрыяльнага пункту гледжання, відаць, не пад сілу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*СІТУАЦЫЯ*

# ПА-СУСЕДСКУ...

**Ужо болей як паўгода знаёмы з суседскай сітуацыяй, якая склалася вакол сям'і Валянціны Барысаўны Якімовіч, што жыве ў Слуцку па адрасу: Калгасны завулак, дом 3. І ўсё неяк рука не падымалася што-небудзь напісаць.**

Спадзяваўся, што сітуацыя зменіцца, калі не сама па сабе, то хаця б дзякуючы прабіўным здольнасцям Валянціны Барысаўны (усё ж на яе баку, як мне асабіста падаецца, праўда). Дзякуючы і таму, што суседзі адумаюцца. Дзякуючы болей прынцыповай пазіцыі мясцовых уладаў, мо нават канкрэтна — дзякуючы пазіцыі мясцовай санэпідэмстанцыі, санэпідэмслужбы, санітарнага ўрача. Ды дзе там...

Але ж аб усім па парадку. На плошчы ў 0,06 гектара пабудаваны два дамы — Валянціны Барысаўны і яе суседзяў. А мяжа падзелу ўчастка праходзіць якраз супраць (ушчыльную) дома Якімовіч. Жылі ранейшыя суседзі — не было ніякіх праблем. Але так здарылася, што добрыя суседзі атрымалі добраўпарадкаваную кватэру, а дом свой прадалі. І тут пачалося... Спярша новыя гаспадары падсыпалі свой двор. Жаданне зразумелае. Але ў выніку пасля дажджу вада пачала збірацца каля дома Якімовічаў. Далей — болей: устанавілі суседзі каналізацыйную бочку. Чысціць яе, праўда, не спяшаліся (справа зразумелая і брудная, таму клопатам гэтым займаліся раз у год).

Якімовічы, паколькі іх дом знізу пачаў гніць, заняліся капітальным рамонтам (ніякія ўшчуванні да суседзяў на карысць справе не пайшлі). А як пачалі рамантаваць, то ізноў — абвастрэнне і без таго канфліктнай сітуацыі. Суседзі не пусцілі рабочых на свой участак, каб тыя маглі падысці да дома Якімовічаў. Давялося бярвенні мяняць знутры хаты.

Фантазіі, кажуць, заўсёды не стае межаў. Адно акно Якімовічаў, якое якраз выходзіць на суседскі ўчастак, прыязныя суседзі заставілі бляхай, на якой намалявалі чэрап, косці, дапоўнілі гэтую экзотыку «добрасуседскага існавання» надпісам: «Рукамі не чапаць!»

Пад другім акном Якімовічаў доўгі час паркаваўся аўтобус, які заводзіўся ў любы час дня і ночы. Пад гэтым жа акном на адлегласці не болей як 3 метры суседзі ўтрымліваюць казу з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі.

Адчуваецца з боку мясцовых уладаў стомленасць, скажам, так, «пытаннем Якімовіч». Маўляў, колькі можна пра адно і тое ж. Так і хочацца на гэтае заўважыць: «Колькі трэба...» На крайні выпадак — удакладніць: да тае пары, пакуль «пытанне Якімовіч» не будзе вырашана канчаткова.

Яшчэ ў верасні 1996 года (сёлета, 20 верасня, — маленькі на тое юбілей, 2 гады. А ці будзе пяцігадовы, дзесяцігадовы юбілей?) Слуцкая санэпідэмстанцыя прыняла рашэнне аб забароне карыстання каналізацыяй, «сканструяванай» суседзямі Якімовіч. У адказ на гэта гаспадары бочкі проста перасталі яе чысціць.

...Калі мы ў чарговы раз размаўлялі з Валянцінай Барысаўнай Якімовіч, яна параіла (улічваючы, што ў нас могуць быць сумненні ў яе добрасумленнасці і г. д.) звярнуцца да іншых суседзяў, што пражываюць побач. Маўляў, і яны шмат што могуць дадаць. Але ж і так усё навідавоку...

Але што маралізатарстваваць упустую... Хаця, мо якраз мараль і сумленне тых людзей (наўмысна не называем прозвішча суседзяў, якія ўсяго толькі бочкай каналізацыйнай здолелі зацьміць белы, чысты свет Якімовічам) усё ж нагадае: так рабіць нельга, так жыць нельга. А следам і слуцкія ўлады паспрабуюць пашукаць рашэнне, форму ўплыву, словам, зробяць той крок, які б усяго толькі адну сям'ю, сям'ю Якімовічаў, супакоіў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ПЫТАЙЦЕСЯ — АДКАЗВАЕМ: ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ «ЗВЯЗДЫ» І ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ КРАІНЫ Ў АШМЯНАХ*

# ВЯСКОЎЦЫ ЗБІРАЮЦЬ УРАДЖАЙ, РЫХТУЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ ДА ШКОЛЫ І... ЧАКАЮЦЬ ЗАРПЛАТУ

**У ДОМЕ КУЛЬТУРЫ КАЛГАСА «КАСТРЫЧНІК» Мураванаашмянскага сельсавета Ашмянскага раёна, дзе праводзіла свой чарговы «прыём» «Звязда», сапраўды не было дзе яблыку ўпасці. Калгаснікі, што ў такую гарачую для сельскіх жыхароў пару знайшлі ўсё ж час наведаць такое незвычайнае мерапрыемства, завіталі сюды яўна не для «галачкі». Твары жыхароў, заклапочаныя, усхваляваныя, часам засмучаныя гаварылі вельмі красамоўна: людзі прыйшлі за тлумачэннямі, расказаць пра самае набалелае, з надзеяй знайсці падтрымку і дапамогу.**

**Пенсіянерку Барташэвіч вельмі цікавіў і ў той жа час абураў такі момант: *«Чаму я, калгасніца, якая адпрацавала ўсё жыццё, атрымліваю вельмі маленькую пенсію? У той жа час людзі, якія і ў маладосці не «абцяжарвалі» сябе — забяспечаны сацыяльнай пенсіяй. І яна ўвесь час павышаецца?»* Адказ трымала *намеснік начальніка ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва Валянціна КАРАЛЁВА:***

— Сацыяльную пенсію ў асноўным атрымліваюць дзеці-інваліды ці інваліды з дзяцінства. Што датычыцца дармаедаў і лайдакоў, пра якіх вы гаворыце, то яны, як правіла, атрымліваюць працоўную пенсію за свой стаж. Ці пры няпоўным стажы, ці без заробка. Гэта значыць — мінімальную працоўную пенсію. Такія пенсіі павышаюцца толькі ў сувязі з ростам мінімальнай заработнай платы і ў сувязі з пераразлікамі ўсіх працоўных пенсій. Аднак калі працоўныя пенсіі павышаюцца, напрыклад, у ліпені гэтага года яны былі павышаны ў сярэднім на 18 працэнтаў, мінімальныя пенсіі былі павышаны ўсяго на 8 працэнтаў.

Павышэнне з верасня сацыяльных пенсій накіравана зусім не на павышэнне пенсій такім людзям, а дзецям-інвалідам.

**Многіх хвалявала тое, што ўжо пэўны час у некаторых вёсках сельсавета «маўчаць» радыёкропкі. Відавочна, што са сваёй зарплатай і пенсіяй далёка не ўсе калгаснікі могуць дазволіць сабе купіць тэлевізар. Вось і атрымліваецца, што людзі поўнасцю адрэзаны ад знешняга свету: няма радыё — няма інфармацыі. А калі яшчэ ў вёсцы няма і тэлефона... на жаль, з такой сітуацыяй прыходзіцца сутыкацца даволі часта.**

Як патлумачыла мясцовае кіраўніцтва, гэта пытанне выносілася на разгляд сельскага савета. Спадар Утрым — начальнік электрасувязі, паведаміў, што прычына такой сітуацыі з радыёкропкамі — састарэнне праводкі, слупоў. Сродкаў на іх замену няма. Адзінае выйсце з гэтага становішча мясцовае кіраўніцтва бачыць у набыцці насельніцтвам трохпраграмных прыёмнікаў. Тут сувязісты пайшлі насустрач жыхарам — такі прыёмнік можна ўзяць у крэдыт, пенсіянерам прадугледжаны пэўныя льготы. Многія прыёмнікі ўжо набылі.

Такое рашэнне праблемы наўрад ці задаволіла саміх вяскоўцаў, бо «трохпраграмнікі» каштуюць не танна. Як вядома, падчас сваіх выступленняў і прэзідэнт краіны, і міністр сувязі неаднаразова ўзнімалі пытанне аб важнасці работы раённых радыёвузлоў, сацыяльнай значымасці радыёінфармацыі. Калі гэту праблему ў сілу некаторых абставінаў (з-за той жа адсутнасці сродкаў) нельга вырашыць на мясцовым узроўні, «прыёмная «Звязды» вырашыла звярнуцца з лістом у Міністэрства сувязі. Пра далейшае развіццё сітуацыі газета будзе інфармаваць сваіх чытачоў.

**Галоўнае пытанне, якое сёння хвалюе практычна ўсіх вяскоўцаў, дыспарытэт цэн. У калгасе «Кастрычнік» яго агучыў мясцовы вартаўнік, пенсіянер Іосіф Бальцэвіч: *«Здаю ў калгас малако па 4 тысячы рублёў за літр. А кілаграм камбікорму ў магазіне каштуе 7 тысяч 400 рублёў. Што ж адбываецца? Атрымліваецца, што парсючка больш выгадна малаком карміць? Ён, дарэчы, быў бы не супраць».*** Адказаць Іосіфу Іванавічу было няпроста, ды ён, калі казаць шчыра, і не чакаў адказу. Рытарычнае пытанне атрымалася... Усе мы добра ведаем, што сёння далёка не ўсё ў парадку з цэнамі на сельгаспрадукцыю. Будзем спадзявацца, што робіцца сапраўды ўсё магчымае, каб нармалізаваць сітуацыю.

**Летнія канікулы заканчваюцца. Хутка ў школу. Бацькам не трэба тлумачыць, у што абыходзіцца падрыхтаваць усё неабходнае для заняткаў хаця б на аднаго вучня ў доме. А калі ў сям'і некалькі дзяцей?**

***«Ці будзе сёлета аказвацца матэрыяльная дапамога па падрыхтоўцы дзяцей да школы мнагадзетным сем'ям?»* — цікавіла Ганну Дарашкевіч.**

— Сёлета аднаразовая дапамога па падрыхтоўцы дзяцей да школы, якая была летась, хутчэй за ўсё выплачвацца не будзе, — тлумачыць **Валянціна Каралёва**. — На дзяржаўным узроўні падтрымку атрымаюць толькі дзеці-сіроты. Не выключана, што раёны, якім мясцовыя бюджэты дазваляюць зрабіць выплаты дапамог, пойдуць на гэта.

**Пасля сустрэчы з калгаснікамі, пацікавіўся ў старшыні калгаса Пятра Сырамалота заробкам на вёсцы. Даярка іх калгаса ў сярэднім атрымлівае 2595 тысяч рублёў, жывёлавод — крыху больш за паўтара мільёна. Прыкладна столькі складае і заробак вадзіцеля. Спецыялісты атрымліваюць каля 3,5 мільёна рублёў, механізатар — 1 мільён 980 тысяч. Зарплату выплацілі пакуль толькі за май...**

**Сяргей ПРОТАС.**
*Ашмянскі раён.*

НАДЗЁННАЕ

Усе флагі ў госці да нас

# ЗДЗІЎЛЯЕМ СВЕТ

«Зялёненькі вінаград удаўся дзеўкам на пагляд...»
*(З народнай песні).*

«Кум куме дужа рад — павёў кумку ў вінаград»
*(Прымаўка)*

НАРОДНЫЯ песні, паданні, прымаўкі і прыказкі з далёкіх часоў данеслі да нас сцвярджэнні пра тое, што вінаград, які лічыцца паўднёвай культурай, беларусы вырошчвалі стагоддзі таму назад. Ды стаў ён амаль «забыты» на сельскіх сядзібах праз гады ліхалецця, войнаў і голаду — шмат што ў нашым жыцці было як ветрам знесенае... Аднак нешта ж захавалася, не ўсё прапала.

Ёсць куточак у Пінску, пра які нават не ўсе пінчане ведаюць. Гэта былая сядзіба Івана Іванавіча Шаўчука, вінаградара-самавучкі. Ужо 32 гады, як не стала гэтага незвычайнага чалавека, але справа яго, дзякаваць Богу, не памерла разам з ім.

На непрыдатнай глебе бацькавай сядзібы Іван Шаўчук заклаў вінаграднік у далёкія 30-я гады. Саджанцы выпісваў з Польшчы і Украіны, меў 100 сартоў вінаграду, апрабаваў ажно 150. Расказваюць, што застаўся ён адзінокі, не жаніўся, увесь аддаваўся любімаму занятку — летам шмат працаваў, а зімой ездзіў у Варшаву, каб адпачыць, сустрэцца з калегамі.

Яго першымі вучнямі і памочнікамі сталі мясцовыя сяляне, яны ж былі і першымі распаўсюджвальнікамі вінаграду ў родным краі.

У 1948 годзе спецыяльнай пастановай урада рэспублікі сядзіба была пашырана да 0,5 га і пераўтворана ў апорны пункт БелНДІ пладаводства. Шаўчук атрымаў 5 тысяч рублёў прэміі за поспехі ў новай для Беларусі справе і 20 тысяч для працягу яе. Згадзіцеся: гэта і дзіўна, і цікава, бо год быў нялёгкі, пасляваенны.

Пераняўшы эстафету ад настаўніка і свайго земляка, 15 гадоў тут адпрацаваў і прайшоў на практыцы ўсе «азы» гэтай навукі Рамуальд Лойка — цяпер вядомы вучоны ў галіне вінаградарства, аўтар многіх кніг і артыкулаў па вінаграду. Удзельнік міжнародных нарад і сімпозіумаў у Чэхіі, Венгрыі, Польшы, ЗША, ён у сваіх выступленнях нязменна прыцягваў увагу да набыткаў беларускіх вучоных.

Вынікам гэтых сувязей, а таксама значнасці навуковых даследаванняў, навукова абгрунтаванага забеспячэння насельніцтва раяніраванымі сартамі стала незвычайная падзея — чарговая міжнародная нарада «Цёплалюбівыя культуры ў паўночных раёнах садаводства» праводзіцца ў Беларусі і прымеркавана да 50-й гадавіны Пінскага апорнага пункта БелНДІ.

Удзельнічаць у нарадзе выказалі жаданне вучоныя, вядучыя спецыялісты ў сваёй галіне: з Расіі — дактары навук Іван Кастрыкін і Эла Калбасіна; з Украіны — дактары навук Павел Мароз і Павел Бадалаў; з Польшчы — доктар Ян Капытоўскі і доктар Цыбіш; з Амерыкі — вядучы спецыяліст па вінаграду са штата Мінесота Том Плочэр і вядомы спецыяліст-вінароб Роберт Паркер; прэзідэнт Клуба вінаградараў Латвіі Гвіда Добеліс і інш.

На нараду запрашаны са сваімі экспанатамі—узорамі вырашчаных сартоў — загадчык кафедры Віцебскага універсітэта Уладзімір Фядотаў, вінаградары-практыкі, папросту сказаць дачнікі-віцябчане Віктар Кухараў і Алег Асінскі, якія не толькі вырасцілі цудоўны вінаград ва ўмовах поўначы Беларусі, але і вынайшлі сваю тэхналогію вырошчвання.

Большасць рабочага часу нарады была прысвечана Пінску, дзе выпрабоўваецца ўжо больш за 250 сартоў. Апорным пунктам зараз загадвае Ганна Бут-Гусаім, навуковая калекцыя папаўняецца дзякуючы сувязям з іншымі краінамі.

Якія ж сарты найбольш цікавыя на погляд Ганны Уладзіміраўны? Вядома, Алёшанькін, бо ён ранні і мае вялікія гронкі (да 1000 г), прыгожыя светлазялёныя ягады; Касманаўт — ягады смачныя, салодкія; Паўночны ранні, Асобы, Багатырскі і інш.

Сюды, на Чарняхоўскага, 87 можна наведацца, атрымаць кансультацыю, набыць чаранкі. Тут ёсць сарты, якія не патрабуюць укрыцця на зіму — Фіялетавы, Жнівеньскі, гібрыд 8-24, гібрыд 8-17, Альфа, што сталі папулярнымі сярод пінскіх дачнікаў.

Наогул, было што паказаць гасцям. Дый віцябчане не падвялі. Прывезеныя ўзоры проста ўразілі і выглядам сваім і смакам: гэта Кадранка, Тамайскі з цёмнымі буйнымі ягадамі, Міраж — без костачак. А «Восторг» і «Брат Восторга» (назвы рускія) — адзін з бурштынавымі, а другі з чорнымі выдатнага смаку ягадамі, выклікалі ўсеагульнае захапленне. Калі мець такія сарты, не трэба нам ніякія прывазныя, з паўднёвых краін, дзе вінаграднікі за лета шмат разоў апрацоўваюцца ядамі.

Самы час — верасень — для пасадкі вінаграду на нашых сядзібах і дачах. Саджанцы і чаранкі можна набыць не толькі ў БелНДІ пладаводства (пас. Самахвалавічы Мінскага раёна, 223013), але і ў практыкаў-дачнікаў. Не навіна таксама набыць саджанцы арэха грэцкага і абрыкоса. Усё гэта ёсць у Беларусі, сведчаннем чаго і з'явілася цяперашняя нарада.

**Зінаіда МАЛАШЭВІЧ.**
Мінск — Пінск.

**Адрасы для набыцця саджанцаў вінаграду:**
**Кухараў Віктар Паўлавіч. вул. Церашковай, д. 18, корп. 2, кв. 52.**
**тэл. (8-0212) 24-26-53**
**пас. Самахвалавічы**
**тэл. для даведак 90-12-18. (з 9.00 да 18.00)**
**грэцкага арэха: тэл. 90-16-19 (з 18 до 21.00)**

## Адным сказам

Дзяржаўны падатковы камітэт Беларусі і Дзяржаўная падатковая служба Расійскай Федэрацыі дамовіліся ажыццяўляць залік сум акцыза, якія належыць уплачваць у бюджэт Расійскай Федэрацыі або Рэспублікі Беларусь па падакцызных таварах, што паходзяць або перамяшчаюцца з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у Расійскую Федэрацыю або з тэрыторыі Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліку Беларусь без мытнага афармлення, на суму акцыза, уплачанага ў краіне іх паходжання. Увядзенне ў дзеянне механізма заліку плануецца ажыццяўляць з 1 верасня.

## СЁННЯ

**Першая квадра — 30 жніўня.**
**З 13.14 — 9-ыя месяцавыя суткі.**
**З 18.56 Месяц — у сузор'і Стральца.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. У паўночна-заходніх і цэнтральных раёнах кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні ўмераны. Тэмпература паветра ў Гродне, Мінску і Віцебску — 14—16, у Брэсце і Магілёве — 15—17, у Гомелі — 16—18 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні 5—10 м/сек., парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ўначы — 6—11, удзень — плюс 14—19 градусаў.

*НА КОНКУРС "ЗВЯЗДЫ" І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ*

***Валера ГАПЕЕЎ***

# АДАРВАНЫ ГУЗІК

АПАВЯДАННЕ

**Валеры Гапееву 35 гадоў, па спецыяльнасці ён радыётэхнік, жыве ў г. Івацэвічы і працуе ў рэдакцыі раённай газеты. Паводле ягоных слоў, апавяданне «Адарваны гузік» ён «насіў у сабе некалькі гадоў», а ў канцы ліста дадае: «верыцца, што яно вартае конкурсу». Мы згодны з аўтарам.**
**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

У той год Радаўніца прыпала на 10 мая. Аўтобус наш узяў накірунак на Магілёўшчыну 9 мая апалове першай. Людзей было аж зашмат — чатыры выхадныя запар, ды яшчэ і Радаўніца.

Крануліся, доўга цягнуліся па Партызанскім праспекце з частымі прыпынкамі перад светлафорамі. Нарэшце за вокнамі пасвятлела і пацішэла — горад застаўся ззаду. Тады і прагучаў у салоне пераканана, з нейкай напышлівасцю старэчы, але досыць моцны голас:

— Вясна — самая цудоўная пара года. Як усё квітнее!

Голас належаў мажнай жанчыне гадоў сямідзесяці. Яна сядзела ў трэцім радзе, каля праходу. Шырока раскінулася ў крэсле, у дадатак шырыню яе плячэй і велічыню пляскатых ужо, але і цяпер вялікіх грудзей падкрэслівала чорная балоневая куртка паверх сіняга фрэнча, зашпіленая усяго на адзін гузік, спецыяльна дзеля гэтага прышыты. Куртка ледзьве сыходзілася ў адзіным месцы сваімі крысамі.

Кабета павярнула голаў адначасова да вакна і да сваёй суседкі, маладзенькай дзяўчыны гадоў семнаццаці. Дзяўчына разгублена глянула ў вакно, зычны голас кабеты зноў загучаў у салоне:

— Вось вам, маладым, расці і квітнець. А мы ўжо сваё аджылі.

Дзяўчыне трэба было нешта адказаць, яна разумела, што старая хоча завесці з ёй гутарку, але яе, відаць, бянтэжыў досыць моцны голас старой. Дзяўчына ўсё глядзела ў вакно, а старая таксама не адварочвалася. Нарэшце дзяўчына села прама, хутка раскрыла кнігу, якую дагэтуль трымала на каленях, уторпілася ў старонку.

— Не трэба ў аўтобусе чытаць. Дактары кажуць, што шкодна. Вочы псуеш.

Дзяўчына здрыганулася.

— Нічога, не зашкодзіць.

— А-а, то цяпер не зашкодзіць. І мне некалі нічога не шкодзіла.

— Ну, то я тады пасплю! — з нейкай радасцю, нібы ад знойдзенага выйсця, выгукнула дзяўчына, адкінулася на спінку крэсла і заплюшчыла вочы.

Да Лапічаў кабета сядзела далей моўчкі. На гэтым прыпынку суседка кабеты, дзяўчына, выйшла. Старая не садзілася да вакна, з цяжкасцю ўстала на тоўстыя кароткія ногі ў карычневых, простых панчохах, чакала сваю будучую суседку ці суседа.

Жанчына гадоў трыццаці з гадавалым хлопчыкам зайшла ў аўтобус, углядзелася ў яго напоўненае душнаватае нутро.

— Сюды, сюды сядайце! — паклікала старая. — Я хоць баба тоўстая, затое ціхая. А болей вам і сесці няма дзе.

Некалькі чалавек у аўтобусе заўсміхаліся. У цішыні праехалі хвілін дзесяць.

— Вясна — самая цудоўная пара года. Як хутка ўсё расквітнела! — голас старой, такі ж упэўнена-напышлівы, зноў прагучаў на ўвесь аўтобус.

Пакачаў галавой, перасмыкнуў вуснамі ў люстэрку вадзіцель. Недзе пачулася кароткае «Хі-хі», недзе ўздых «О, Божухна!» Маладзіца не звярнула ўвагі ні на голас старой, ні на гукі ў аўтобусе. Яе турбаваў хлопчык — ён імкнуўся стаць ножкамі на сядзенне, румзаў.

— Нельга, Максімка, пацярпі. Нам зусім мала ехаць. А там нас татка сустрэне...

— Далёка едзеце? — быццам чакала гэтых слоў маладзіцы старая, спытала хутка і па-ранейшаму гучна.

— Не, толькі да Бабруйска.

— А мне далёка... — працягнула кабета, але зноў не пачула да сябе пытання «Куды вам ехаць?»

У Доўску старая мітуслівa пачала падымацца, перапытала двойчы ў вадзіцеля: «А колькі стаім?» і цяжка выйшла з аўтобуса, які прыпыніўся каля вакзала, не заходзячы на перон прыбыцця. Накіравалася ў бок вакзала.

...Усе ўжо былі на месцы. У пяцідзесяці кроках, па зацэментаванай пляцоўцы ішла да аўтобуса старая. У гэты момант вадзіцель завёў рухавік. Мякка крануліся аўтаматычныя дзверы, паехалі, закрываючы ўваход.

Роспач, страх, разгубленасць адбіліся на твары старой, і той стаў мярцвяна-шэрым. Яна сілілася крыкнуць, але толькі бязгучна раскрывала рот, бо ўся сіла яе была скіравана на тое, каб як мага хутчэй пераступляць тоўстыя, няўклюдныя ногі.

Як цяжка даваліся ёй гэтыя, для яе хуткія, крокі! Гармонікам сабралася на назе панчоха, з кожным крокам гэты гармонік рос ушыркі і ў вышыню.

Ніхто ў аўтобусе не глядзеў у вакно.

Хоць старую бачылі ўсе. Аб гэтым гаварыла зацятая, змоўніцкая цішыня салона. Аўтобус ціхенька крануўся.

І старэчы крык урэшце вырваўся з заціснутых у цесную балонню курткі грудзей. Старая была ўжо побач.

Вадзіцель пераможна ўсміхнуўся, спыніў аўтобус. Пачалі адчыняцца дзверы.

Зацэментаваная пляцоўка заканчвалася даволі высокай прыступкай. Старая нагнулася, ухапілася рукамі за край пляцоўкі, пасунула на зямлю адну нагу, потым другую, у з'ехаўшай цалкам панчосе. Хваравіта-белая скура неверагодна тоўстай нагі была ў беспарадку аблытана тоўстымі, бы шнур для бялізны, ліловымі венамі.

Старая павярнулася тварам да дзвярэй, што ўжо зачыніліся. І ў гэты момант пстрыкнуў, адляцеў некуды ўбок шэры гузік з чорнай курткі. Вольна раскінуліся распутанымі крыламі крысы.

Успалых яркіх фарбаў святла на грудзях старой заўважылі ўсе. Яго немагчыма было не заўважыць, як бліц лямпы-ўспышкі фатографа.

...Застылай, набрыняла-барвовай пяцікутнай кропляй крыві адсвечваў на правым крысе сіняга фрэнча старой ордэн Чырвонага Сцяга, высакародна паблісквалі вострымі гранямі ордэн Айчыннай вайны, заззялі над промнямі сонца залатыя і срэбныя кружкі медалёў.

Вуркнуў здзіўлена і заглох, нібы падавіўся сваім вуркатаннем, рухавік аўтобуса. У нацятай цішыні старая пачала падымацца па прыступках у аўтобус. Ад гэтага яе руху нагі здрыгануліся рады медалёў на левым крысе фрэнча. Іх ціхі, тонкі звон быццам абудзіў застыўшы салон аўтобуса.

Сарваліся са свайго месца напарнік вадзіцеля і мужчына на пярэднім сядзенні, кінуліся да старой, падалі рукі, каб дапамагчы падняцца ў салон. Схапілася з месца настаўніца, на нейкіх, толькі ёй вядомых правах, прабілася наперад і перахапіла старую з мужчынскіх рук, вяла да крэсла.

— Ой гузік, дзетачкі, гузік адарваўся... — праз уздыхі-усхліпы казала старая, хапаючы адной рукой чорныя крысы курткі, каб закрыць, схаваць ад позіркаў пасажыраў свой сіні фрэнч у медалях і ордэнах.

— Дробязь, цёпла ж зусім, — угаворвала яе настаўніца. — Вам гэтая куртка дыхаць не дае, знялі б вы яе зусім...

— Не, не дзетачкі. Няёмка перад людзьмі мне. Знайсці гузік трэба, я прышыю яго...

Пагойдваліся, ціха пазваньваючы, медалі. Іх срэбны звон як быццам мякка ушчуваў пасажыраў, запрашаў успомніць...

Настаўніца пасадзіла старую, павярнулася да вадзіцеля:

— Пачакайце, гузік трэба пашукаць!

— Пачакаем! — нават з радасцю згадзіўся той.

Шукаць гузік разам з настаўніцай таропка падняліся яшчэ некалькі чалавек. Угледаліся ў зямлю, заглядвалі пад аўтобус. Нічога не знаходзілі.

— Мо пад аўтобус закаціўся, — услых падумаў нехта ў салоне.

Вадзіцель як па камандзе завёў рухавік, крыху падаў аўтобус назад.

Хвіліны праз тры пошукаў старая ўзнялася з месца.

— Не трэба, дзетачкі, не шукайце, ліха на яго. Я вось шпількай сцягну. Што з-за мяне аўтобус трымаць...

Ізноў цішыня стаяла ў аўтобусе, уважлівая і паважлівая. І ў гэтай цішыні гучаў стары, на слязах настоены голас:

— То ж пamру я праз год, адчуваю. А як вёску нашу ссялілі ад радыяцыі, мяне дачка ў Мінск забрала. То я ўжо тры гады на магіле мужа не была, да таткі з мамкай яечка на магілу не клала... З ваенкамата прыйшлі, кажуць, вельмі просім вас прыйсці сёння на плошчу. Угаварыла дачка, і медалі гэтыя надзець прымусілі. Ты іх, кажа, кроўна заслужыла, чаго іх саромецца... Напужалася я вельмі, дзетачкі, як аўтобус крануўся. Я ж адна паехала, дарогі добра не ведаю, паўвека ў сваёй вёсцы прасядзела, нідзе не была. Ногі, халера іх, як у багне ў блакаду трое сутак прасядзела, пухнуць пачалі. Бы калоды парабіліся, хадзіць надта ж цяжка. А некалі, ого, мяшок з узрыўчаткай на плечы ды ўсю ноч праз лес, праз балота. Эх, маладая была... Радаўніца заўтра, думала, яшчэ хто да маёй вёскі ехаць будзе, яно разам неяк весялей. А вось адна атрымалася, не ўмею ў людзей спытаць. Рабіць умею, а бяседаваць так і не навучылася.

— А вы ў якую вёску едзеце, на якія вам могілкі трэба? — прагучала пытанне аднекуль з глыбіні салона.

Старая павярнулася з цяжкасцю на голас, адшукала позіркам задаўшага пытанне хлопца гадоў васемнаццаці.

— На краснапольскія, унучак.

— То і нам на краснапольскія трэба, — адазвалася жанчына ў другім крэсле. — Вы ў якой вёсцы жылі?

...Я не стаў выходзіць у Завідаўцы, папрасіў, каб мяне падкінулі яшчэ далей, да Новых Журавічаў. Калі я выйшаў, і аўтобус, чмыхнуўшы салярачным смуродам, паехаў далей, у мяне ўзнікла пачуццё, што я нешта забыў у салоне. Вельмі важнае забыў...

Праз два дні, падыходзячы да аўтавакзала ў Доўску, я прыпыніўся на тым самым месцы, дзе шукалі адарваны гузік. Прыпыніўся, каб прыпаліць цыгарэту, а сам тым часам вачамі абмацваў крок за крокам гэтае месца...

Мне тады і цяпер здаецца вельмі важным і неабходным знайсці той гузік. Мо вы будзеце калі ў Доўску, то там, перад пляцоўкай, якая вядзе да галоўных уваходных (зачыненых заўсёды) дзвярэй аўтавакзала, часам прыпыняюцца міжгароднія аўтобусы, не заходзячы на перон. Мо пашанцуе вам. Гузік жа вялікі, шэры, з дзвюма дзірачкамі...



## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

- **Згодна з рашэннем Савета Дзярждумы**, пытанне аб кандыдатуры Віктара Чарнамырдзіна на пасаду прэм'ер-міністра будзе разгледжана на пленарным пасяджэнні ніжняй палаты 31 жніўня. Як паведаміў спікер Дзярждумы Селязнёў, шэраг думскіх фракцый настойвае на пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж прэзідэнтам, парламентам і ўрадам у якасці ўмовы зацвярджэння Віктара Чарнамырдзіна на пасаду кіраўніка кабінета.
- **5 расійскіх банкаў** сфарміравалі ўчора яшчэ адну буйную банкаўскую групу, якую ўзначаліў Нацыянальны рэзервовы банк. У яго ўвайшлі таксама «Инкомбанк», «Автобанк», «Межкомбанк» і «Альфабанк». Старшынёй савета паўнамоцных прадстаўнікоў групы абраны старшыня праўлення НРБ Аляксандр Лебедзеў. Раней аб зліцці паведамілі «ОНЭКСИМбанк», «Мостбанк» і банк «Менатеп».
- **У Нью-Йорк з Кеніі дастаўлены падазраваемы** ў арганізацыі выбуху ля амерыканскага пасольства ў Найробі грамадзянін Йемена Салех Бен Рашыд. Дырэктар ФБР Фры, выступаючы на прэс-канферэнцыі ў Вашынгтоне, паведаміў, што Бен Рашыду прад'яўлена абвінавачанне ў арганізацыі 7 жніўня тэрарыстычнага акта, у выніку якога загінулі больш за 250 чалавек і каля 5 тысяч атрымалі раненні.
- **МЗС Таджыкістана заклікала ўлады Узбекістана** затрымаць і выдаць таджыкскім праваахоўным органам групу тэрарыстаў, якія забілі ўчора мэра горада Турсунзадэ Хайрулаева і чацвярых супрацоўнікаў яго апарата. Паводле даных таджыкскага боку, група ўзброеных людзей, якія ўчынілі напад на мэрыю, з боем прарвалася праз мяжу на тэрыторыю Узбекістана. МЗС Узбекістана катэгарычна абвергла сцвярджэнні, што забойцы мэра знаходзяцца на ўзбекскай тэрыторыі.
- **Жанчыны аддаюць перавагу** мужчынам з сумленнымі і адкрытымі тварамі, нават калі яны не выглядаюць валявымі і рашучымі. Так мяркуюць псіхолагі з шатландскага універсітэта ў Сент-Эндрусе, які ўзначальвае Дэвід Перэт. Яны паказвалі рэспандэнтам з Шатландыі і Японіі камп'ютэрныя выявы чалавечых твараў, якія выклікалі асацыяцыі з пэўнымі асаблівасцямі характару. Эксперымент паказаў, што і мужчынам, і жанчынам падабаюцца мяккія рысы твару. Жанчыны не толькі адчуваюць большы давер да мужчыны з такой знешнасцю, але нават лічаць, што ён можа стаць добрым бацькам. Насупраць, «звышмужнае» аблічча часцей за ўсё асацыіруецца з халоднасцю і ненадзейнасцю. Вынікі гэтага даследавання апублікаваны ў часопісе «Нейчур».

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**





## Усё пра ўсё

# Як перамагчы стрэс

Спецыялісты сцвярджаюць, што для кіравання стрэсам неабходны штодзённы кантроль і выбар эфектыўных спосабаў барацьбы з ім.

1. Раскажыце ўсё блізкаму чалавеку. Калі нам зусім дрэнна, мы ідзём да маці, сяброў ці проста блізкага чалавека і жалімся, раскрываем душу, вызваляемся такім чынам ад негатыўных эмоцый. Разважаючы ўголас, выстройваючы ў лагічны ланцужок падзеі, прыслухоўваючыся да чужой думкі, мы пачынаем разумець прычыны таго, што адбылося і нават можам прыняць лёсаноснае рашэнне.

2. Знайдзіце спакой. Пакладзіце руку на сэрца і прыслухайцеся, як яно рытмічна б'ецца. Зараз, калі вы чуеце яго біццё, вымаўляйце ўголас фразы, у якіх ёсць слова «спакой». Можна змяняць іх, кожны раз прыдумваючы новыя, але лепш скласці блок з некалькіх словазлучэнняў і пры неабходнасці паўтараць яго цалкам. Напрыклад: «Я ў спакоі. Спакой ува мне. Спакой вакол мяне. Увесь свет у спакоі. Спакой у маім целе. Спакой у маім сэрцы».

Выкарыстоўваючы гэты метад некалькі разоў, вельмі хутка будзеце ўмець кіраваць сваімі эмоцыямі.

3. Пасадзіце на калені кошку, сабаку, хамячка ці марскую свінку — свайго чатырохногага любімца. І пагаварыце з ім — вы адчуеце палёгку. А паколькі жывёлы маюць здольнасці не толькі цудоўна слухаць, але і маўчаць, вам не прыйдзецца турбавацца, што пра вашу аповесць даведаецца хтосьці трэці.

4. Зрабіце сабе падарунак. Дрэнны настрой без прычыны на тое бывае ў кожнага з нас. Вельмі просты, але надзіва эфектыўны спосаб палепшыць яго — зрабіць сабе падарунак. Неабавязкова дарагі ці патрэбны, які спадабаецца і прынясе радасць.

5. Крыкніце моцна «ха!» Калі трэба імгненна вызваліцца ад злосці, раздражнення, пастаўце ногі на шырыню плеч, падыміце рукі ўверх, зрабіце глыбокі ўдых. Пры гэтым уявіце, што лёгкія напаўняюцца не паветрам, а тымі адмоўнымі эмоцыямі, што назбіраліся ў вас. Увабраўшы ў сябе ўсю гэтую «нечысць», рэзка нахініцеся ўперад, махніце рукамі, як пры сячэнні дроў, і зрабіце рэзкі моцны выдых з гукам «ха». Паўтарыце гэта практыкаванне яшчэ раз, калі адчуеце, што засталося яшчэ нешта не выплюхнутае.

6. Арганізуйце свята. Засцяліце стол прыгожым абрусам. Пастаўце самы лепшы посуд, уключыце музыку, прыгатуйце любімую страву. Апраніце самае лепшае адзенне, прычашыцеся, зрабіце макіяж — вы цудоўна выглядаеце. Гэта свята для вас. І памятайце — ваш настрой залежыць толькі ад вас.

## ПОЛІЎКА АД РАКА

Многія японцы моцна захапляюцца супамі з агародніны, паверыўшы, што гэта надзейны сродак ад гіпертаніі, некаторых відаў алергіі, дыябету і нават рака. Рэцэпт, які прапануюць мясцовыя навуковыя свяцілы, вельмі просты: 5-6 відаў агародніны — шпінат, маркоўнік і абавязкова рэдзька — варыць у звычайнай вадзе 15—20 хвілін. Менавіта за гэты час, згодна з японскай тэорыяй, разбураецца абалонка клетак агародніны, якая не дазваляе карысным для здароўя рэчывам пранікаць у наш арганізм.

## МУЖЧЫНЫ, ВІДАЦЬ, ВАМПІРАЦЬ

Інакш як яшчэ растлумачыць сенсацыйныя вынікі даследавання шведскіх вучоных?! Аказваецца, жанчыны, якія працуюць у мужчынскіх калектывах, часцей хварэюць, чым астатнія прадстаўніцы слабага полу.

**По матэрыялах друку склала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

# ПАД БРАНЁЮ

**Відаць мала знойдзецца людзей, у якіх калі-небудзь не было чарапахі. Часцей за ўсё гэтых закаваных у браню жывёл купляюць для маленькіх дзяцей у якасці своеасаблівай жывой цацкі. Бацькі звычайна разважаюць прыкладна так: за шчанём, кацянём, птушкай ці хамячком патрэбны штодзённы догляд, спецыфічнае харчаванне, наогул, вельмі ўсё гэта клопатна, а чарапаха жывёла зусім беспраблемная, поўзае сабе, нікому не замінае, кінуў ёй жменю дзьмухаўцоў раз у два дні і ўсе праблемы.**

А зімой яна наогул спіць. Лёсы такіх жывых «цацак», як правіла, вельмі падобныя. Аблашчаную ў першыя дні свайго знаходжання ў доме, пра чарапаху паступова забываюцца, бо ў адрозненне ўсё ад таго ж шчаняці ці кацяняці, яна ніколі не будзе адэкватна рэагаваць на чалавечую ўвагу, ніколі не навучыцца адклікацца на покліч ці імкнуцца іншым чынам вадзіцца са сваімі гаспадарамі. І часам апошнім напамінкам аб некалі жывой істоце становіцца цяжкі пах, які даносіцца адкуль-небудзь з-пад шафы ці канапы.

Утрымліваць чарапаху на «вольным выгуле» ў кватэры (што часцей за ўсё практыкуецца) зусім недапушчальна. Па-першае, чарапаха абавязкова сатрэ сабе кіпцюры аб цвёрдую падлогу, часам да самых касцей, а па-другое, у вялікай кватэры немагчыма падабраць усе неабходныя ўмовы для жыцця гэтай жывёлы. Чарапасе патрэбен спецыфічны мікраклімат: вільготнасць паветра, пэўная тэмпература, працягласць светлавога дня. Усіх гэтых умоў можна дасягнуць толькі ў добра абсталяваным тэрарыуме.

Усё сказанае вышэй датычыцца ў асноўным найбольш распаўсюджаных у нас у кватэрах сярэднеазіяцкіх чарапах, якіх экспартуюць (цяпер амаль выключна нелегальна) з Сярэдняй Азіі. Але сустракаюцца ў продажы і іншыя віды чарапах. Аднак аб усім па парадку.

### СЯРЭДНЕАЗІЯЦКАЯ ЧАРАПАХА

Жыхар субтрапічнай Азіі. Жыве ў пясчаных і паўпясчаных пустынях. Гэтых чарапах літаральна тонамі ў мяшках, як бульбу, завозяць кантрабандысты-перавозчыкі з краін Сярэдняй Азіі ў еўрапейскую частку СНД, адкуль яны трапляюць яшчэ далей — у краіны Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

Літаральна на ўсіх рынках гарадоў СНД можна ўбачыць сярэднеазіяцкіх чарапах, пастаўленых пластронам (ніжняй часткай панцыра) на слоікі з-пад варэння і бездапаможна матляючых нагамі ў паветры. Каб чарапахі на продаж былі больш яркімі, а значыць, больш прываблівымі для пакупнікоў, іх карапакс (верхнюю частку панцыра) звычайна змазваюць алеем. Гандляры, пазбаўленыя нават зародкаў сумлення, часам нават пакрываюць лакам панцыр і пярэднія ногі чарапах, каб тыя блішчэлі на сонцы глянцам. Гэты від чарапахі найбольш папулярны ў якасці «жывой цацкі», жывёла сапраўды вельмі непатрабавальная і жывучая. Паводле літаратурных даных, чарапаха нават з раструшчанай галавой у стане пражыць некалькі дзён. Але справа ў тым, што чарапаха, якая жыве ў пасылачнай скрыні ці поўзае па кватэры, не жыве, яна проста марудна гіне.

Запомніце, што чарапаха не цацка, і набывайце яе толькі ў тым выпадку, калі вы ў стане прадаставіць ёй добра абсталяваны, прасторны тэрарыум.

Утрымліваюць сярэднеазіяцкіх чарапах у тэрарыумах з вялікай плошчай дна, на пясчана-галечным грунце. Тэмпература: каля 30° С удзень і каля 20° С уначы. Звычайна чарапасе патрэбна зімоўка, але пры ідэальных умовах утрымання можна абысціся і без яе.

Кормяць гэтых жывёл зялёным лісцем, салатай, капустай, вельмі любяць яны моркву і памідоры, не трэба забываць і пра бялковую ежу, часам давайце жывёле тварог і вараныя ўкрутую яйкі. Наогул чарапахі вельмі пераборлівыя ў ежы. Даводзілася чуць аб жывёлах, якія ажно «трасуцца» ад кветак дзьмухаўца, іншыя пайшлі яшчэ далей, не ўжываючы нічога, акрамя каціных мясных кансерваў.

### ЧЫРВАНАВУХАЯ ЧАРАПАХА

Гэты від цяпер у вялікай колькасці экспартуецца ў Еўропу, у тым ліку і ў краіны СНД з ЗША і Мексікі, дзе нованароджаных чарапашак, якія водзяцца там у вялікай колькасці, адлоўліваюць у прыродзе. Гэтая жывёла ў большай ступені, чым раней апісаная, прыдатная ў якасці падарунка для дзіцяці. Ва ўсялякім выпадку сам факт набыцця такой жывёлы ўжо абавязвае разам з ёй набыць яшчэ і акварыум, а таксама вылажыць у ім горку з каменняў ці змясціць туды карчажынкі, каб чарапаха магла вылезці з вады, калі ёй захочацца. Але трэба памятаць, што чырванавухія чарапахі даволі хутка растуць і з малечы памерам з юбілейны рубель савецкіх часоў гады праз тры вырасце жывёла з даўжынёй панцыра каля 25 см. Так што рыхтуйцеся прадаставіць ёй іншы акварыум большых памераў. Акрамя таго, калі ў дзіцячым узросце чырванавухія чарапахі маюць вельмі яркую расфарбоўку, то дарослыя жывёлы маюць раўнамерную бура-зялёную афарбоўку, з невялікімі чырвонымі ці аранжавымі плямамі па баках галавы.

Паколькі жывёла гэтая трапічная, абавязкова трэба падумаць і аб яе абаграванні. Абагравальны прыбор (такі ж, як і ў звычайным акварыуме) павінен знаходзіцца ў вадзе і праграваць яе да 22° С, над каменнай горкай ці карчагай таксама неабходна ўмацаваць абагравальнік (падыдзе звычайная настольная лямпа), тэмпература паветра павінна быць не ніжэй за 26° С.

На дно акварыума можна насыпаць буйную гальку, аднак можна ўпаўне абысціся і без яе. Не варта саджаць у акварыум з чарапахамі водныя расліны, яны ў першы ж дзень будуць калі не з'едзены, то бязлітасна выдраны з коранем.

Кормяць чырванавухіх чарапах жывым кормам, тым жа, што даюць акварыумным рыбам: матылём, трубачнікам, карэтрай. Пры адсутнасці гэтых кармоў можна даваць нятлустае мяса, ялавічны ці бараны лівер, сырую рыбу.

### КАСПІЙСКАЯ ЧАРАПАХА

Знешне яна падобна да чырванавухай, толькі не такая яркая і не мае чырвоных плямаў па баках галавы. Аднак маладыя каспійскія чарапашкі даволі прываблівыя знешне. Умовы ўтрымання і кармлення гэтай жывёлы аналагічныя з такімі ў чырванавухай чарапахі. Хіба што тэмпература вады і паветра можа быць крыху ніжэйшай. Жыве каспійская чарапаха ў невялікіх рэчках, якія ўпадаюць у Каспійскае мора. Гэтую жывёлу толькі зрэдку можна сустрэць на нашых рынках і ў зоамагазінах.

***

Акрамя апісаных відаў часам у рукі нашых суграмадзян трапляюць і іншыя чарапахі: **балканская**, **прамяністая** і яшчэ вельмі многія. Колькасць відаў, якія жывуць у дамах і кватэрах, значна павялічылася з тых часоў, як нашы суграмадзяне сталі ездзіць у турпаездкі па трапічных краінах. Многія аматары жыўнасці, падпарадкоўваючыся імгненнаму рашэнню, вязуць у «родныя пенаты» розных жывёл, у тым ліку і чарапах. Дазволю сабе нагадаць такім аматарам, што ў многіх краінах, калі вас затрымаюць на мытні з такім «жывым сувенірам», прадугледжаны буйны штраф, а часам нават пару месяцаў турмы. А, як вядома, няведанне законаў не вызваляе ад адказнасці.

У Беларусі водзіцца адзіны прадстаўнік гэтых цікавых жывёл: **балотная** чарапаха. Магу толькі папярэдзіць гора-натуралістаў аб тым, што выключаць гэту чарапаху з прыроды зусім недапушчальна і гэта караецца законам. Гэты від занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Менавіта таму мы і не даём ніякіх рэкамендацый па яе ўтрыманню, дагляду і кармленню.

І апошняе, што датычыцца ўсіх чарапах без выключэння, якіх утрымліваюць у хатніх умовах. Пры кармленні ім у ежу абавязкова трэба дабаўляць солі кальцыю, магнію і фосфару, неабходныя гэтым жывёлам для ўмацавання шкілета і панцыра. Лепш за ўсё набыць у зоамагазіне спецыяльны прэпарат, але ў крайнім выпадку падыдуць і «чалавечыя» таблеткі глюканату і гліцэрафасфату кальцыю.

**Арцём ХАНІН.**

*36,6°*

# ЦІ ВАРТА ЖЫЦЬ ДА 100 ГАДОЎ?

**Эліксір вечнай маладосці шукалі даўным-даўно. Старажытныя алхімікі галоўным сродкам яе вяртання лічылі золата, таму што яно звязана з сонцам — крыніцай энергіі і цяпла.**

**Граф Сен-Жэрмен валодаў быццам бы эліксірам жыцця і асабіста рабіў «ваду амаладжэння», дастаўляючы яе да двара.**

**Французскі медык Броун-Секар прапаноўваў перасаджваць чалавеку палавыя залозы барана. Вядомы вучоны Мечнікаў кожны дзень піў шклянку кіслага малака, а балерына Вольга Лепяшынская, кажуць, прымала содавыя ванны.**

Сярэдняя працягласць жыцця ў часы Хрыстова нараджэння складала толькі 22 гады. У 1900 годзе ў цывілізаваных краінах яна складала 49 гадоў. Аднак з 1950 г. у сувязі з развіццём аховы здароўя яна стала павялічвацца амаль на 2 працэнты ў год. Так, з 1960 па 1990 г. працягласць жыцця, паводле даных СААЗ, павялічылася на 13,5 года. Герантолагі лічаць, што тыя, хто нарадзіўся ў 1990 годзе, пражывуць у сярэднім у Японіі 78,3 года, у Ісландыі, Швецыі, Швейцарыі, Галандыі, ЗША — крыху менш, у Расіі — усяго толькі 66 гадоў.

Хто лічыцца пажылым, а хто — старым? Па існуючай цяпер класіфікацыі пажылым можна назваць чалавека, якому пераваліла за 60, старым — каму за 75 гадоў, а ўжо таго, каму больш за 90, — доўгажыхаром.

У свеце жывёл сітуацыя такая: мыш жыве 2 гады, трус, сабака — да 15 гадоў, карова — 25—30 гадоў, слон — да ста; некаторыя віды матылькоў — усяго 10—12 гадзін, а слановая чарапаха — да 150 гадоў, гіганцкая секвойя — да 6000 гадоў.

Аднак даўжэй за ўсе біялагічныя істоты ўсё ж жыве чалавек, яго арганізм разлічаны максімальна на 120 гадоў, хоць амерыканскія вучоныя лічаць, што, калі змяніць код храмасом, можна жыць 300—400 гадоў, таму што на генетычным узроўні ў нас запраграміравана не старэнне, а тып абмену рэчываў. Па закону прыроды даўжэй жыве той, хто марудна размнажаецца і каму трэба многа часу для выхавання патомства.

Як падоўжыць маладосць — гэта не пытанне. Кіраўнік Інстытута ювеналогіі, прафесар Я. Красоўскі лічыць, што пазбегнуць старасці нельга, але можна падоўжыць маладосць. Для гэтага трэба ведаць прычыны старасці.

Вось тут і пачынаюцца загадкі. Адны даследчыкі лічаць, што «гадзінны механізм» скрыты ў гіпаталамусе і гіпофізе, якія рэгулююць гарманальную дзейнасць арганізма. Па другой версіі, «гадзіннік» размяшчаецца ў кожнай асобнай клетцы і працэсы старэння вызначае ДНК. Але яе праграма пастаянна парушаецца, і старасць можа наогул не наступіць.

Некаторыя вучоныя першай прычынай старэння лічаць старэнне нервовай сістэмы, якая рэгулюе ўсю работу эндакрыннай, сардэчна-сасудзістай, імуннай, дыхальнай сістэм арганізма.

Механізм старэння сёння дастаткова добра вывучаны. Ён заключаецца ў змене клетак нашага цела, а іх 10 трыльёнаў. Мы, аказваецца, пачынаем паміраць... з нараджэння. Чым старэй чалавек — тым больш яго клетак памірае. Яны, вядома, замяняюцца новымі, але гэта ўжо не тыя клеткі. Адзінае выключэнне складаюць палавыя. Яны паміраюць таксама, але не старэюць і гэтым адрозніваюцца ад усіх іншых клетак арганізма.

Новая эра ў геранталогіі пачалася ў 1961 годзе, калі анатом Леанард Хейлік выявіў працэс старэння ў клетках, змешчаных у пажыўны раствор. Ён устанавіў, што працэс дзялення адбываецца 100 разоў, пасля чаго размнажэнне спыняецца. Клеткі паводзяць сябе ў прабірцы таксама, як у жывым арганізме, і ў іх ёсць свайго роду гадзіннікавы механізм, які вызначае тэрмін жыцця. Калі знайсці гэты «гадзіннік» і перавесці «стрэлкі», жыццё можна падоўжыць аж да бессмяроцця.

Аднак чаму гінуць клеткі, вучоныя так і не могуць зразумець. Некаторыя спецыялісты лічаць, што старэнне — гэта не норма, а хвароба, і спадзяюцца яе перамагчы. Самыя аптымістычныя думаюць, што ў наступным стагоддзі будуць знойдзены тэрапеўтычныя способы, якія да старых гадоў дазволяць нам мець гладкую скуру, пругкія мышцы і юнацкую патэнцыю. Ужо цяпер распрацавана мноства методык, якія запавольваюць працэс старэння, аднак эфект ад іх зусім невялікі.

Што ж рабіць? Дзе шукаць сакрэт вечнай маладосці? Чаму Адам, бацька роду чалавечага, пражыў 930 гадоў, яго сын Сіф — 912, а Мафусаіл, адзін з прабацькоў, — 969 гадоў?

Успомнім, з чым у нас асацыіруецца старасць? З балбатлівымі на лаўках старымі, бурчаннем і глухатой, шаркаючай паходкай. Мы выдзяляем і спецыфічныя хваробы старасці — атэрасклероз, ішэмічную хваробу сэрца, цукровы дыябет, гіпертанію, анкалагічныя захворванні, якімі павінны быццам бы пакутаваць пажылыя людзі. Але практыка паказвае, што гэта даўно ўжо не так. Арганізм старога чалавека аслаблены, і яго імунітэт з узростам пачынае згасаць.

А ў сутнасці, ад самой старасці мы атрымліваем не так многа хвароб. Гэта астэапароз — станчэнне і ломкасць коснай тканкі, хвароба Альцгеймера — від старэчага слабога розуму, пры якім адбываецца змяненне асобы, чалавек губляе памяць, каардынацыю... Так, бадай, і ўсё. Усе астатнія — плён пройдзенага і пражытага намі.

Па-першае, трэба, вядома, зразумець, што старасць — гэта не біялагічны паказчык, штамп у пашпарце, чаму наша грамадства надае каласальнае значэнне. У 40—50 гадоў цяжка ўладкавацца на «прэстыжную» работу, спартсмен у 25 гадоў ужо ветэран, жанчына ў 45 — «ягадка зноў». Цяжка паверыць, што ўсе гэтыя дзікія і непаддаваемыя здароваму розуму ярлыкі мы вешаем адзін на аднаго і жывем імі, бачачы ў такіх ацэнках сэнс, зусім далёкі ад рэальнага жыцця.

ГУЛЬНЯ Ў МАЛАДОСЦЬ І СТАРАСЦЬ, якой забаўляецца ўсё чалавецтва ўжо некалькі тысяч гадоў, на самой справе зусім бессэнсоўная. Яна не дае нічога, акрамя непатрэбных праблем і пакут.

Дзіўны такі факт: у Японіі, дзе больш за 6 тыс. чалавек перакрочылі стогадовы рубеж, людзі сталі ў цэлым адчуваць сябе значна горш і часцей хварэюць, але жывуць пры гэтым значна даўжэй. Асноўныя праблемы са здароўем у дарослых японцаў — ныркі, страўнікава-кішэчны тракт, сэрца, ціск, дыябет.

Тыбетцы, якія славяцца сваім доўгажыхарствам, вызначаюць тры яго этапы:

**1. Фізічны.** Добрае здароўе.

**2. Разумовы.** Вы павінны валодаць моцнай воляй для развіцця станоўчых якасцяў розуму і ліквідацыі негатыўнай інфармацыі.

**3. Кармічны.** Доўгажыхарства можа быць абумоўлена вашай кармай. Трэба памятаць, што чым больш жыццяў вы выратуеце, тым даўжэй будзеце самі жыць.

Многія ўсходнія тэорыі доўгажыхарства заснаваны на тым, што страта жыццёвай энергіі мужчынам адбываецца ад страты семені ў палавым акце. Затрымка ж яго быццам бы падаўжае жыццё. Захаванне спермы, магчыма, з'яўляецца прычынай доўгажыхарства ў мужчын.

У слабога пола і таго няма, і яму, беднаму, прыходзіцца быць старым згодна вердыкту грамадства, хоць сёння і ў 50—55 гадоў многія жанчыны выглядаюць намнога лепш, чым у 20.

Мы старэем, таму што самі хочам гэтага. Мы не ўмеем любіць, часта злуемся, нервуемся, пакутуем, змагаемся, зайздросцім, раўнуем, ненавідзім.

Цікава, што старажытнейшая медыцынская навука аюрведа разглядае чалавека як квантавае цела — нашы думкі, пачуцці, работа клетак, органаў і сістэм арганізма, біяхімічныя і псіхічныя рэакцыі — усё ўзаемазвязана паміж сабой на тонкім энергетычным узроўні. Доктар медыцыны, адзін з вядучых спецыялістаў па праблемах доўгажыхарства, Дыпак Чопра, які лічыць адзінымі цела і дух, гаворыць: «Познія гады павінны стаць менавіта тым часам, калі жыццё набывае паўнату. Скарыстайце любоў як люстэрка ліхалецця. Няхай яна сілкуе вашу ўпэўненасць у тым, што вы па-за вымярэннем, па-за памяццю аб учарашнім і спадзяваннямі аб заўтрашнім дні. Ёсць бясконцае мноства шляхоў, якія вядуць да адкрыцця сапраўднага быцця, але любоў — самы яркі і верны. Калі вы будзеце кіравацца ім, то вы пойдзеце за межы старэння і смерці».

**Наталля ЕРМАЛАЕВА.**

*«Совершенно секретно. Версия».*

